ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 47 (1645) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 22 ЛІСТАПАДА 1987 г. ЦАНА 12 зл.

## 70 МЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

### ЧЫРВОНЫ КУЛЯМЁТЧЫК

Міхал Грыгарчук нарадзіўся 15 чэрвеня 1900 года ў рабочай сям'і ў вёсцы Кавалёўцы, што ў Заблудаўскай гміне. У бежанстве спачатку трапіў у Пскоў і там стаў на работу на фабрыцы, а потым пераехаў у Маскву і працаваў на фабрыцы гіраў.

3 ліпеня 1917 г. быў спачуваючым Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (бальшавікоў), а з 1 лютага 1918 г. — яе членам. Са жніўня 1917 г. быў сувязным паміж маскоўскімі партыйнымі арганізацыямі. Прымаў актыўны ўдзел ва ўзброеным паўстанні ў Маскве і быў паранены ў вулічных баях. Залячыўшы раны, стаў кулямётчыкам ў Вяземскім дабраахвотным стралковым палку Чырвонай Гвардыі, слу-



жыў у ім з 3 чэрвеня 1918 г. да 8 жніўня 1920 г. Удзельнічаў, між іншым, у баях пад Вязьмай, Архангельскам, Петраградам, на Заходнім фронце. Двойчы быў паранены.

Вярнуўшыся ў родную вёску, крыху гаспадарыў і адначасна працаваў рабочым на Беластоцкай радыётэхнічнай фабрыцы, потым у гадах 1921-1939 быў таксістам у Беластоку. З 1933 г. належаў да Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. За прыналежнасць да яе і актыўную дзейнасць арыштаваны ў 1936 г. і асуджаны на год турмы. Пасля вайны ў гадах 1945-1948 быў членам Польскай сацыялістычнай партыі, а з 1948 г. ён — член Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Міхаіл Грыгарчук адзначаны Ордэнам Чырвонай Зоркі.

**Б. Нікіцюк**



**Вучні з бельскай „тройкі" на фоне Замкавай гары ў Мельніку.**

## З рэпарцёрскіх ЗАПІСАК

## ПАВУЧАЛЬНАЯ ЭКСКУРСІЯ

Першы раз у жыцці давялося мне быць гідам, значыць, праваднікам краязнаўчай экскурсіі. Ад імя сваіх вучняў запрасіў мяне ў гіды настаўнік геаграфіі ў падставовай школе № 3 у Бельску-Падляшскім, мгр Юрка Баена. Пісаў ён у лісце, што ў гэтай школе актыўна дзейнічае гурток Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства, якім ён якраз і апякуецца. Дзеці шмат ужо вандравалі па далёкіх кутках краіны, наведвалі, між іншым, Свентакшыскія горы, цяпер рашылі пазнаёміцца з надбужным раёнам Беласточчыны, дзе заўжды на працягу цэлай нашай гісторыі дзеялася штосьці цікавае, найчасцей трагічнае, дзе сутыкаліся і ўзаемна крыжаваліся дзве вялікія еўрапейскія культуры: заходняя, падпарадкаваная лацінскаму духу, і ўсходняя, заснаваная на візантыйскіх традыцыях.

— Вы, як аўтар аповесці „Буг у агні", — пераконваў мяне Юрка Баена, — безумоўна найлепш патрапіце расказаць вучням аб патрыятычных традыцыях гэтага рэгіёна нашай радзімы.

Мяне і не трэба было пераконваць. Вучням бельскай „тройкі" адмовіць у дапамозе я б ніколі і не змог. Гэта ж адзіная ў Польшчы гарадская школа, дзе ўсе дзеці, без аніякіх выключэнняў, вучацца беларускай мове!

Дарэчы, настаўнік Ю. Баена і ад мяне патрабаваў, каб я з дзецьмі гаварыў выключна па-беларуску, што тым болей заахвоціла мяне да ўдзелу ў гэтай экскурсіі.

*

Дамовіліся мы на сустрэчу ў Бельску 17 кастрычніка а 7-й гадзіне раніцы. Першы аўтобус, якім я спадзяваўся дабрацца ў Бельск на дамоўлены час, толькі шмыгнуў дымам і, паказаўшы сіні хвост, паімчаўся без затрымкі, быццам бы, аж у Люблін. Другі, што цераз Бельск адпраўляўся ў Белавежу, спыніўся на прыпынку, але шафёр катэгарычна заявіў, што бліжэй, чымсьці ў Белавежу, нікога браць не будзе, бо і так аўтобус перапоўнены пасажырамі. Шафёр не хлусіў. Сапраўды, я ледзь увапхнуўся ў гэты натоўп, не зважаючы на яго пратэсты, каб толькі не падвесці бельскіх дзяцей, якім я абяцаў, што абавязкова прыеду.

Сціснуты, як селядзец у бочцы, разам з іншымі пасажырамі я рытмічна паддаваўся падскокам заезджанага аўтамабіля на дарожных калдобінах. І раптам, калі мы выбраліся ўжо за гарадскія межы, чую ў гэтай цеснаце знаёмую беларускую песню ў выкананні вядомага эстраднага ансамбля „Дубіны". „Ці гэта мне сніцца? — падумаў я. — Ці аўтар беларускіх радыёперадач

(Працяг на стар. 2)

## ХРОНІКА

**Кастрычнік 1987 г.**

☐ 7 — Секцыя асветы ГП БГКТ зацвердзіла правілы конкурсаў для школьнай моладзі. У бягучым навучальным годзе БГКТ супольна з Кураторыяй асветы і выхавання будзе праводзіць дэкламатарскі конкурс пад лозунгам „30 год літаб'яднання „Белавежа", а таксама агляд дзіцячых тэатральных калектываў і конкурс „Беларуская песня'88".

— Адбылося пасяджэнне Праўлення аддзела БГКТ у Гайнаўцы, на якім разглядаліся справы пабудовы Беларускага музея і падрыхтоўкі да справаздачна-выбарных сходаў у гуртках.

☐ 13 — Аўтар „Пожні", Васіль Петручук, сустрэўся з вучнямі чацвертых класаў агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім.

☐ 15 — Праўленне гуртка сеньёраў у Беластоку абмеркавала план дзейнасці да канца года. Вырашана арганізаваць „Дзень сеньёра" 14 лістапада г.г.

☐ 18 — У Гайнаўцы адбылася раённая нарада актыву праўленняў аддзелаў БГКТ. Асноўнай тэмай была праблема шырэйшага ўключэння грамадства ў здзяйсненне ідэі пабудовы Беларускага музея, а таксама падрыхтоўка да справаздачна-выбарнай кампаніі ў БГКТ. **(л)**

## НА МЯЖЫ

# АБ ДВУХ ПЕНСІЯНЕРКАХ

Усе ведаем, як многа сёння ў нашых вёсках пенсіянераў. Хочам ці не хочам, але мусім прызнаць, што вырашэнне гэтай справы прыносіць гонар нашай дзяржаве, якая нягледзячы на шматлікія цяжкасці, вырашыла гэту справу так, як не была яна на нашай зямлі вырашана ніколі ў гісторыі. Але, вядома, людзі — як людзі. Ёсць такія, што з удзячнасцю адносяцца да кожнай дробязі, зробленай у іх карысць, а ёсць і такія, якім можам даць палову скарбаў усяго свету, а яны і так будуць крывіцца, наракаць і гаварыць, што ім належыцца намнога болей. І вось у такім аспекце прагну глянуць на два выказванні жанчын, якія ўжо некалькі гадоў на пенсіі. З жанчынамі гэтымі сутыкнуўся я ў адной з вёсак на тэрыторыі гміны Нараўка. Удалося мне не толькі паразмаўляць з гэтымі жанчынамі, але і пабываць у іх — як жа розных — хатах.

Вось выказванні пенсіянеркі, якую можам азначыць літарай К.

„Пытаеце, як мне жывецца? Каб Бог сцярог такога жыцця. Дастаю, ну, дастаю дзесяць тысяч і на колькі іх мне хваціт? Дай Божэ, каб хваціло на два тыдні, а часам і ўсяго толькі на тыдзень хваціт. Чом не хватае? А колькі ж сегодня ўсё каштуе? З каждым днём даражэе. Вам тут будут плесці, што я выпіваю разом з сынамі. Лганство гэто. А нават калі вып'ем часом, то чы ж гэто грэх. Хто сегодня не вып'е? Чы то я мало для панства працавала? Усё жыцє працавала, от што! Няхай цяпер жонд падумае, як такім, як я, памагаць, бо як дагэтуль, то вон штось ні толькі аб гэтом думае. Дарабляці кажэце, пліскі збіраць або ягады? Ніхай іх немач возьме. Назбіралася я за свае жыцє. Даволі гэтаго збірання, ніхай той збірае, хто хочэ багацець. Я ні хачу багацеці. Я хачу толькі нармальна жыці. Ніхай мне цяпэр жонд дае, бо я ему ўсе жыцє давала“.

А вось выказванне другой пенсіянеркі з тае ж самае вёскі, яе абазначым літарай М.

„Як жывэцца? Ніколі так ні жылося, як жывэцца цяпэр. Я ўжэ ні гавару пра тое жыце, каторэ было пэрэд вайною, або ў час вайны, але навет лет трыццаць таму. А цяпэр! То ж мы ўсе цяпэр паны. То ж гэты рэнты нам Герэк даў, а цяпэр Ярузэльскі яшчэ пабольшыў. Дай Бог ім здароўе. Я за іх часом малюса, хай ваны жывут як найдаўжэй. Ну, а чы той Герэк, каторого так лаялі, жывэ яшчэ? Жывэ, ну і хай жывэ. Колькі ж вон такім, як я, доброго зрабіў. Ніколі яшчэ не было такого добраго жонду, як цяпэр. Толькі адна бяда: вэльмі ён людзей распусціў, а найбольш маладых. Працаваць ніяк не хочут. Божэ, Божэ, а чы ж мы, эмэрыткі, ні можэм сабе зарабіць? Хоць дзесяць тысяч мне хватае, але я ні сіджу. Гэтаго лета зарабіла на плісках больш як семдзесят тысяч. Хто гэта бачыў, каб за кілё бэток плаціло панство пацьсот злотых? А так плаціло! Калісь, бывало, перад вайною, то ў жандовым лесе ні можно было навет аднае ягадкі ўзяць. То ж гаёвые і леснічые карзінкі ламалі, штрафавалі, на пастарункі валачылі, а цяпэр можэце паўлесу вынесці. Пойдзеш у лес, бачыш: сонечко зыходзіт. Маладосць прыпомніш, назбіраеш бэток, прынясеш, прадасі і ўжэ ў кішэні дзве, а то і тры тысячы. То ж за аднэ лето за гэты бэткі, то

(Працяг на стар. 11)




### ПАСПАДЗЯВАЎСЯ ДЗЕД НА МЕД...

У сорак другой „Ніве“ змешчан артыкул Грышы Мароза пад загалоўкам „У прыродзе нічога не прападае“, у якім, м. ін., папракае ён кіраўніцтва Беларускага таварыства ў абыякавасці да сваіх гурткоў у вёсках ды мястэчках. Намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня, маўляў, абяцае залатыя горы...

На мой розум, гурток павінен жыць сваімі сіламі, а не чужымі, суседнімі, ці ласкаю Галоўнага праўлення. Як пасцелешся, так і выспішся — кажа народная мудрасць. Слацца трэба самому, і спаць за цябе ніхто іншы не будзе.

Я пытаюся ў Мароза: як ваш гурток гэта паслаўся, што так дзіўна яму, летаргічна, спалася? Ці спадзяваліся вы на цуд, які ўпадзе вам з неба пад Старым Беразовам? І ўсіх ашчасліўіць? Вы ж не малыя дзеці, вы ж дарослыя, і давайце думаць па-даросламу, а не чакаць Дзеда Мароза з мяшком падарункаў. А то падобнае на тое, што гурткі БГКТ арганізуюць дзеля дабрадзейнай раздачы нейкіх пачак або імпрэзаў... Гурток БГКТ — гэта толькі шанц для дзейнасці, але калі гэтай дзейнасці няма, то сябра Майсеня за вас тут не будзе прыязджаць і дзейнічаць, зразумейце!

Старое Беразова — гэта легенда Грамады. А я памятаю сваю дзейнасць у даваеннай Грамадзе і магу сказаць пра тыя далёкія часы. Быў я ў адным з гурткоў Грамады, дзейнічаў у ім, і на аніякага інструктара мы не спадзяваліся, самі ўсенька рабілі, бо існаванне гуртка Грамады давала нам легальную магчымасць дзейнічаць. Самі праводзілі гутаркі, даклады, ладзілі канцэрты, экскурсіі, дыскусіі. Самі, усё самі, на Тарашкевіча не азіраліся, каб прыехаў да нас і нешта зрабіў цікавае... Так было, і так павінна быць. Іначай не бывае ў грамадскай дзейнасці. Або ў Старым Беразове ёсць людзі, якія могуць нешта арганізаваць для вёскі, або няма такіх людзей. Калі няма, значыць: няма. І няма чаго шукаць тут вінаватых, чаму Старое Беразова такое соннае і безактыўнае. Само сабе яно вінаватае.

**Кастусь Сідаровіч**

### АГЛЕДЗЕЎСЯ ГАЎРЫЛА!..

Мікалай Панфілюк у „Ніве“ ад чацвертага кастрычніка г.г. шкадуецца, што не камплектаваў наш часопіс ад самога пачатку выдавання яго. Толькі свае артыкулы вырэзваў ён з „Нівы“, а рэшту газеты выкідаў як непатрабноту. Ну што ж, Панфілюк, цяпер ужо позна, не дасі рады сабраць старыя нумары „Нівы“. Пішы: прапала! Але я, нават, аж здзівіўся, што Мікалай Панфілюк быў такім не-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)

# ПАВУЧАЛЬНАЯ ЭКСКУРСІЯ

па Беластоцкім радыё зноў уключыў у сваю праграму песні гэтага ансамбля? Але ж гэта раніца, а не вечар, калі па суботах трансліруецца наша радыёперадача!“

Гляджу на суседзяў у аўтобусе. Некаторыя прыслухоўваюцца да песні, іншыя прабуюць пацішу ўторыць салістцы Марыёлі Прыходскай, а яшчэ ў іншых — паяўляецца ў вачах агеньчык злосці.

Аказваецца, што гэты бясплатны канцэрт для сваіх пасажыраў штодзень наладжвае шафёр Міраслаў Козак з Бельскага аддзялення ПКС. Родам ён з адной з падбельскіх вёсак, па адукацыі тэхнік-аграном, выпускнік Бельскай сельскагаспадарчай школы, нядаўні салдат. Не знайшоўшы працы па сваёй спецыяльнасці, ён сеў за руль аўтобуса, чаму навучыўся ў войску.

— Цяжкая і няўдзячная гэта праца, — кажа ён. — Дык хаця песняй роднай весялю я сваю душу.

Сіплы голас Марыёлі Прыходскай, ахрыплы ад дрэннага запісу і не найлепшай якасці магнітафончыка, надалей апавядаў аб незавіднай долі нейкай жанчыны: *„Дэ ж ты мяне пахаваеш, мілы мой, міленькі?“*

— А як пасажыры адносяцца да гэтых вашых „канцэртаў“? — пацікавіўся я.

— Хто не хоча, хай не слухае! — сцвярджае шафёр. — Аднак тут, на дарогах усходняй і паўднёвай Беласточчыны, пераважная большасць пасажыраў — гэта нашыя людзі, чыстакроўныя беларусы. Яны ахвотна слухаюць гэтыя песні.

І падумалася мне: можа ўсур'ёз разважыць вопыт Міраслава Козака і на трасах ПКС, перасякаючых паўднёва-ўсходнюю Беласточчыну, абсталяваць у аўтобусах магнітафонныя рэпрадуктары з парадачнымі запісамі беларускіх эстрадных і фальклорных песняў. Людзі за гэта напэўна падзякавалі б.

*

У Бельску, апрача дзяцей, чакалі мяне двое маладых настаўнікаў: Юрка Баена, пра якога я ўжо гаварыў, і яго сяброўка па прафесіі, Марыся Базылюк. Дабаўлю тут, што Ю. Баена вядомы таксама як таленавіты беларускі паэт. Марыся Базылюк — нядаўняя выпускніца Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, раней вучыла дзяцей беларускай мове ў Кленіках, а ў гэтым школьным годзе дырэктар Васіль Ляшчынскі прыгарнуў яе ў сваю школу. Марыся і Юрка — выпускнікі Бельскага беларускага ліцэя. Абое яны дасканала валодаюць літаратурнай беларускай мовай, але ў гутарцы між сабою чамусьці карыстаюцца мясцовай падбельскай гаворкай. Або ж намагаюцца гэтакім чынам паказаць, як яны глыбока зрасліся з карэннямі сваёй нацыі, як цэняць высока гэтую „простую“, сялянскую мову, якой пагарджаюць нават самі гэтыя ж сяляне?

Гавару ім, з чым я сустрэўся ў аўтобусе на трасе з Беластока ў Бельск.

— А чаму ж дзівавацца? — кажа пані Марыся, — у бельскіх „эмпэках“ вы кожны дзень пачуеце беларускія песні ў выкананні „Дубіноў“!

Вось і практычнае ажыццяўленне нясмелай ідэі!

*

Бельскай „тройцы“ шэфствуе меліярацыйнае прадпрыемства. Яно і дало вучням у карыстанне свой аўтобус для перавозу рабочых. Больш за сорак дзяўчынак і хлопчыкаў змясцілася ў гэтым аўтобусе. Гэта вучні V, VI і VII класаў.

Вязу дзяцей цераз Кляшчэлі, Мілейчыцы, Такары, Адамова ў Мельнік. А адтуль цераз Машчону-Каралеўскую і Слохі-Аннапольскія ў Драгічын. На паваротнай дарозе наведваем Святую Гару ў Грабарцы ды перасякаем Сямяцічы. Гэтага турыстычнага маршрута няма на ніводнай афіцыйнай карце. А шкада. Бо маршрут вельмі ж павучальны, асабліва для нас, беларусаў. Кожны яго прыпынак багаты сівой мінуўшчынай і крывавымі слядамі апошняй вайны ды доказамі стойкасці нашай нацыі. Драгічын, Мельнік, Кляшчэлі, а таксама і Бельск — гэта ж гарады, заснаваныя „рускімі“ або літоўскімі (чытай: беларускімі) уладарамі гэтай зямлі. Гэта нашы продкі. Пад Мілейчыцамі на супольных могілках спачываюць савецкія салдаты. На іх магілах — помнікі нашай удзячнасці за вызваленне. Па-суседску з Замкавай гарою ў Драгічыне стаіць прыгожая царква. Тры гады таму назад адзначалася тут 900 гадоў праваслаўя на гэтай зямлі. Разам са Святой Гарой у Грабарцы — гэта ж наяўныя доказы нашай сувязі з культурай і абычаем папярэдніх пакаленняў, якія на працягу цэлага тысячагоддзя жылі на гэтай зямлі.

Сапраўды, павучальная гэта экскурсія. І не толькі для вучняў бельскай „тройкі“. Вярнуліся мы дамоў стомленыя, але задаволеныя.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара

## БЕЛАРУСІКІ

Czurak Maria, Kilka uwag o adnotacjach na rękopisach Michała Federowskiego, *Slavia Orientalis* 1967, nr 1, s. 45—51.

Czurak Maria, Pieśni polskie w zbiorze „Lud Białoruski" Michała Federowskiego, *Studia Polono-Slavica-Orientalia Acta Litteraria* 1981, nr 7, s. 59—74, tab. 3.

Czurak Maria, Wróblewski Mikołaj, Pieśni ludowe z południowej części Białostocczyzny. *Studia Polono-Slavica-Orientalia Acta Litteraria...* 1981, t. 7, s. 311—332.

Czurak Maria, Komizm językowy w białoruskiej prozie ludowej, *Acta Baltico-Slavica*, t. 16, 1984, s. 73—86

Czurak Maria, „Lud białoruski" Michała Federowskiego a polska bajka ludowa, *Studia Polono-Slavica-Orientalia Acta Litteraria* 1985, t. 9, s. 137—143.

Czurak Maria, Komizm w białoruskiej prozie ludowej, Wrocław 1984 Rec. Sielicki Franciszek, *Lud*, t. 69, 1985, s. 315—318.

Czykwin Jan, A dom nasz... (w). Tł. z białor. W(iktor) Rudczyk. *Tygodnik Kulturalny* 1971 nr 17 s. 7.

Czykwin Jan, Płacz Jarosławny (w). — Na drugi brzeg (w). Tł. z białor. Jan Leończuk, *Warmia i Mazury* 1978, nr 10, dod. s. 9—10.

Czykwin Jan, Powracam ze spotkania (w). — Chcesz nie chcesz (w). Tł. z białor. Jerzy Litwiniuk. — W śnieg jak do cerkwi można wejść (w). — Pora już spać. Już płoną gwiazdozbiory (w). Tł. Jan Leończuk, *Literatura* 1978, nr 3, s 10.

Czykwin Jan, Ogród (w). — To już nie fura siana, ale coś jeszcze (w). — Wiąże wiekami stary więznia spolegliwy (w). Tł. z białor. Elżbieta Feliksiak, *Literatura* 1979, nr 24, s. 9, il.; Ból mój czerwony (w). — A dom nasz (w). — O, mój pierwszy, ostatni, synu nienarodzony! (w). — Odwieczny dialog (w). — Wieczorny gość (w). — Niczego nie wiem o was chłopcy (w). Tł. z białor. Elżbieta Feliksiak, *Warmia i Mazury* 1979, nr 5, s. 7—8, il.

Czykwin J., Smaszcz Waldemar, A dom nasz gdzieś... *Poezja* 1979, nr 5, s. 111—115.

Czykwin Jan, W łąkę zapada (w). Tł. z białor. Jan Leończuk. — Sroki plakały na płocie (w). Tł. Jerzy Litwiniuk, *Twórczość* 1980, nr 4, s. 76—77.

Dawidziuk Hieorhij, Badania empiryczne socjologów radzieckich Białorusi. Rozm. przepr. Zygmunt Dąbek. *Człowiek i Światopogląd* 1979, nr 10, s. 150—156.

Dejna K., Językowa przynależność gwar brzesko-pińskich, (w). *Języki i literatury wschodniosłowiańskie*, Łódź 1976, s. 13—20.

Derecki Mirosław, Ech, co za człowiek! (Przewodniczący kołchozu „Sowietskaja Biełaruś"), *Kamena* 1970, nr 2, s. 1, 9.

Deruga Aleksy, Z dziejów sprawy białoruskiej w latach 1917—1918, *Przegląd Historyczny* 1968, z. 4, s. 710—740, tab.

Deruga Aleksy, Geneza polsko-radzieckiego konfliktu zbrojnego na ziemiach litewsko-białoruskich, *Z dziejów Polsko-Radzieckich*, t. 4: 1969, s. 16—36.

Deruga Aleksy, Powstanie i pierwsze lata Białoruskiej Republiki Radzieckiej, Ref. *Notatki Płockie* 1969, nr 2, s. 6—12, il.

Deruga Aleksy, Wpływ Rewolucji Październikowej na budowę Białoruskiej Państwowości Radzieckiej, *Z Dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich*, t. 5, 1969, s. 35—55.

Deruga Aleksy, Leninowska polityka zagraniczna a geneza Litewsko-Białoruskiej Republiki Radzieckiej, *Z Dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich*, t. 7, 1970, s. 157—184.

Deruga Aleksy, Polityka wschodnia Polski wobec ziem Litwy, Białorusi i Ukrainy 1918—1919. Warszawa 1969. Rec. Laval Paweł de, *Kontrasty* 1970, nr 8, s. 34; *Rocznik Białostocki*, t. 10, 1970, s. 423—426; Ochmański Jerzy, *Zapiski Historyczne* 1971, z. 4, s. 190—192; Wołczew Wsiewołod, *Z Dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich*, t. 7, 1970, s. 420—425; Żarnowski Janusz, *Nowe Książki* 1970, nr 8, s. 492—493.

Deruga Aleksy, Z dziejów ruchu rewolucyjnego na ziemiach litewsko-białoruskich w 1918 r. *Z Dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich*, t. 11/12, 1975, s. 289—309.

Diemientiej N., Rozwój rolnictwa radzieckiej Białorusi. Tł. *Międzynarodowe Czasopismo Rolnicze*, 1982, nr 6, s. 10—14.

**Р.С.**

## У ЛЕСЕ ХОРАША ЖЫЦЬ

Па-суседску з Нараўкай, на ўскраіне Белавежскай пушчы, не так яшчэ даўно стаяла маленькая вёсачка Елянка. Жыло ў ёй 12 сем'яў. Пасля апошняй вайны асталося там толькі двух гаспадароў — Рыгор Савіцкі і Аляксандр Сакоўскі. Пазней Сакоўскі перасяліўся ў Нараўку. І так у Елянцы астаўся адзін гаспадар. Ён ужо памёр, цяпер жыве там яго сын, Барыс Савіцкі, са сваёю сям'ёю.

Дом Савіцкіх прасторны, пасучаснаму мэбляваны. У ім адчуваецца беларускі дух. Сюды кожную пятніцу пісьманосец прывозіць „Ніву". Чытачы яе — муж з жонкаю Савіцкія добра азнаёмлены з ніўскімі публікацыямі, ведаюць іх аўтараў

На кніжнай паліцы ў Савіцкіх відаць творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Івана Шамякіна, Кароткая беларуская энцыклапедыя, Тлумачальны слоўнік беларускай мовы і іншыя выданні. Прыемна бачыць зацікаўленне гэтай сям'і сваім родным словам, яе пашану да беларускай культуры. Савіцкія часта пераключаюць тэлевізар на савецкія перадачы з Брэста і асабліва любяць слухаць мастацкае слова, беларускія песні, глядзець тэатральныя пастаноўкі. Гаспадыня хаты таксама любіць песні. У маладосці, калі яна была Оляй Васілюк, спявала ў гайнаўскім харавым калектыве БГКТ, мастацкім кіраўніком якога быў Віталь Макац. Сардэчна яна ўспамінае выезды з канцэртамі ў бліжэйшыя і далейшыя мясцовасці. Беларускія песні з тадышняга рэпертуару неяк самі плывуць з яе вуснаў, часамі прабуе яна зайграць іх мелодыі на піяніна, дарэчы таксама і піяніна — „Беларусь".

На кніжнай паліцы ў Б. Савіцкага прыцягвае вока вялікая кніга: атлас шкоднікаў Белавежскай пушчы, ад якіх неабходна абараніць лес. — Яго трэба бараніць таксама і ад людзей, якія неразумна яго нішчаць, не шануюць, — заўважае гаспадар.

Зжыўся з лесам Б. Савіцкі, ён ведае яго характар, своеасаблівыя таямніцы, няпісаныя законы, адметнае прыгожае жыццё.

— З лесам хораша жыць, — заўважае Б. Савіцкі. — Лес — наша вялікае багацце. Цікавая ў нас тут зверына: зубры, ласі алені, дзікі, шмат іншай дзікай жывёлы, між іншым і ваўкі. У свой час ваўкі ў Белавежскай пушчы былі зніштожаны, і гэта была вялікая памылка.

Аказваецца, што ваўкі неабходныя, яны — санітары лесу: ядуць падлу і хворую звярыну і тым самым не дапускаюць, каб шырыліся хваробы. У другой палове 70-х гадоў іх зноў сталі разводзіць.

— Памятаю, — гаворыць Б. Савіцкі, — як пусцілі ў пушчу ваўка, які доўга жыў у заапарку. Ён не баяўся людзей і не чапаў іх. Чамусьці яму хацелася паглядзець на чалавека. Цяпер ваўкоў у пушчы каля 30 штук.

Пушча — краіна зверыны і птушак. Гэтыя жыхары лесу маюць цікавыя паводзіны, звычкі.

Вельмі асаблівае „рыкавіска" ў аленяў. Гэта штосьці выключнае, незвычайнае. У верасні ў пушчы можна пачуць, як равуць алені, калі адзін другога выклікае на паядынак. Смяротэльны бой аленяў — страшэнны вобраз.

Нязвыклы акт — гэта таксама „такавіска" глушцоў і цецерукоў. Бой красунчыкаў-прыгажунчыкаў за пекную „даму" — малюнак незвычайны, непаўторны.

Б. Савіцкі бясконца можа расказваць аб лесе. Яго прафесіянальная праца ўвесь час звязана з лесам. Ён 12 год працаваў у надлясніцтве Броўск. Некалькі год быў на пасадзе падляснічага ў лясніцтве Скупава і з 1979 года працуе кіраўніком тартака ў Елянцы, які ад яго хаты знаходзіцца ў некалькіх дзесятках метраў. На тартаку працуе 23 чалавекі. У значнай меры — тартак — гэта паслуговая ўстанова. Людзі, якія маюць уласны лес, вязуць пілаваць яго на будаўнічы матэрыял. Шмат бярвення пілуюць на дошкі. У бягучым годзе, да канца верасня, напілавана было 1300 кубічных метраў.

Як інфармуе Б. Савіцкі, ужо ад даўжэйшага часу не вядзецца вырубка ў Белавежскай пушчы. Вывозяць з яе толькі ветралом, якога мноства ў ёй. Тартак скупляе таксама лес ад сялян. І свайго роду цікаўнасць: жэрдкі даўжынёю ў 2,5 м накіроўвае ён на экспарт у ГДР.

Тартак падлягае гайнаўскаму прадпрыемству „Лес" і належна спраўляецца са сваімі абавязкамі. Яго кіраўнік Б. Савіцкі — як кожны кіраўнік прадпрыемства — мусіць арганізаваць і паляпшаць працу свае ўстановы згодна з патрабаваннем другога этапа гаспадарчай рэформы.

Жыве ён таксама грамадскімі справамі сваёй мясцовасці. Актыўна працуе ў гміннай радзе ПРОН, у грамадскім камітэце пабудовы школы і прадшколля ў Нараўцы, а таксама ў падобным камітэце пабудовы водаправода ў салэцтве Янава.

У свабодныя хвіліны Б. Савіцкі любіць пахадзіць па лесе бо ў ім прыемна і хораша зімой і летам, у кожную пару года.

**Міхась Хмялеўскі**

## І П'ЯНІЦА ЧАЛАВЕК!

Ласінка„ што ў Нараўскай гміне, — вялікая вёска. У ёй нямала ўстановаў і ўсякіх грамадскіх аб'ектаў: пошта, асяродак здароўя, клуб, пажарніцкая стража, аўтобусныя прыпынкі, адкуль едуць людзі ў Беласток, Гайнаўку, Тыневічы. Новая і ўжо асфальтаваная вуліца. Гаспадары жывуць у мурах. Платы, як у амерыканскіх фільмах, акуратныя, памаляваныя, не шэрыя і не гнілыя. Жыць і не паміраць!

Аднак ёсць і хмаркі на ясным небе над Ласінкаю. Вясковая вуліца, праўда, усё роўна што ў Варшаве якой, але тратуараў, тых ходнікаў, чамусьці ніхто не дадумаўся парабіць. Людзі плёхкаюцца восенню ў варварскім балоцечку аж па халяўкі. Ласінкаўцы хочуць мець поўны камфорт, гатовыя яны самі ўзяцца за ўкладку ходнікаў, але без дзяржаўнай дапамогі нічога не будзе.

На дарозе ў Катлоўку вада размывае пераезд цераз меліярацыйны равок. Кепска, трэба ратаваць яго. І парэнчы прыдаліся б у такім выпадку, жалезныя бар'еркі. Сюдою ходзіць усякі народ, таксама дзеці. Дзіця возьме і ўваліцца ў той равок са сцюдзёнаю вадою і тады запаленне лёгкіх пэўнае. Ну, а калі п'яніца які плюхнецца, то і ўтопіцца! Хоць і п'яніца, але шкада: усё ж, як ні кажы, чалавек гэта!

**Аляксандр Закройшчык**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Яшчэ за пагодлівай восені, прыехаўшы ў Вільню і адбаляваўшы з родзічамі гучнае каралеўскае гасцяванне, Ягайла адразу падаўся на сваю бацькаўшчыну — у Крэва і Віцебск. І гэта, відаць, зусім не таму, што ён наогул чамусьці не любіў Вільні і ніколі доўга не прабываў у гэтым горадзе, а дзеля ўладкавання розных спраў у краіне і ў вялікім ды перасвараным родзе Альгердавічаў.

Жыла яшчэ і маці, вялікая княгіня Улляна, датуль даволі актыўная ў дзяржаўных і асабліва ў сямейных справах. Гэта ж яна — чулая, удумлівая і разважная дачка вялікага князя цвярскога Аляксандра — ад часу замужжа з Альгердам у 1350 г. і аж да смерці ў 1392 г. была душою свае вялікай сямейкі — вядомы імёны трынаццаці яе дзяцей: сямі сыноў і шасці дачок. Альгерд, заняты бясконцымі паходамі і бітвамі, няшмат часу прысвячаў дзецям і на Улляне ляжаў увесь цяжар выхавання дзяцей, а пасля смерці




мужа — уладкавання іх у жыцці: забеспячэнне ўдзеламі і пасагамі, жаніцьбы і замужжа, урэшце — суцішэнне розных сямейных спрэчак ці нават варожасці. Любілі і шанавалі сваю маці ўсе дзеці, гарнуліся да яе ў горы і ў радасці. І, мабыць, тою залатой восенню 1386 г. Ягайлаў — самы ўдачлівы Улляніп сын — спяшаўся ў Віцебск, каб раздзяліць сваю радасць каранацыяй і паслухаць шчырай парады найбольш блізкага і прыязнага яму чалавека. Не захавалася ніякіх запісаў пра гэтую сустрэчу сына-караля з маці-княгіняй, але няцяжка ўявіць тыя чуллівыя хвіліны ў зацішнай княгіневай паваліушы на віцебскім замку: разважаліся не толькі асабістыя, але і важныя для ўсяе дзяржавы справы.

Пасля сустрэчы з маці Ягайла наведаў Полацк і іншыя гарады Вялікага княства Літоўскага. Мабыць, гэтае падарожжа было не столькі трыумфальным каралеўскім аб'ездам краіны, колькі падарожжам Ягайлы дзеля растлумачэння шматлікай пануючай радні свае палітыкі і намераў. Ці ўсюды знаходзіў ён зразуменне і падтрымку? Вядома, не! І то па вельмі простай прычыне: кожны з родзічаў з ліха-

# ЛОДЗЬ НА ВЕРНІСАЖЫ МІКАЛАЯ

Была акурат нагода мне пабыць 23 кастрычніка на вернісажы Мікалая Давідзюка, вядомага ўжо нам беларускага мастака, які ажаніўся і жыве ў Лодзі, закончыўшы там свае навукі. Родам ён з прыгайнаўскай Уснаршчыны, а бацькі яго і па сёння трымаюцца Гайнаўкі. Мікалай час ад часу наведвае іх, пераважна са сваімі сынамі, як кажа: „Каб падбеларусіліся яны“.

На вернісаж Мікалая прыехалі групкай і нашы студэнты з Варшавы, на чале — ясная справа — з Валянцінам Сельвесюком, які вывучае мастацтвазнаўства. З'явілася і пару лодзінскіх беларусаў, але яны паводзілі сябе неяк па-эміграцку, усё цішком ды бокам.

Мікалаеў вернісаж выклікаў фурор у мастакоўскім асяроддзі Лодзі! Народу прывалiла столькі, што трэба было стаяць амаль у чарзе да паасобных карцін, экспанаваных у прасторных салонах былога фабрыканцкага палаца Галерэі Мастацтваў. Я, так сказаць, з прыемнасцю тоўкся, бачачы, як нашага земляка цэняць тут і шануюць. Такі лёс таленавітых беларусаў, што больш ведаюць пра іх у шырокім свеце, чымсьці ў роднай старонцы. А дарэшты цяжка сярод беларусаў, якіх гісторыя прывучыла захапляцца ўсім чужым, крывячыся і плюючы на сваё. Сельвесюк і яго сябрына — гэта свяжуткае пакаленне цяперашніх беларусаў і я, на сваю радасць, наглядаю ў іх шмат нармальнасці ў тым сэнсе, што яны перастаюць глядзець на свет знізу ўгору. Бо, які ж гэта старэйшы наш сябар не пашкадаваў бы грошай на білет, каб заперціся ў тую Лодзь на адкрыццё выстаўкі карцін Мікалая Давідзюка з Уснаршчыны? Ну, каб хоць з Гайнаўкі тае ён быў...

Яшчэ дабег я да каляровага каталога яго работ, выдадзенага спецыяльна на гэтую нагоду. Падрыхтаваны на польскай і англійскай мовах аж сам просіцца — здаецца — трэцяй, беларускай. Так зрабіў нядаўна Лёнік Тарасэвіч, маючы свой вернісаж у Беластоку, апераджаўшы ў гэтым Мікалая Давідзюка. Гэта не папрок Мікалаю, а добры падказ, што важнае і выдатнае яго мастацтва і родная беларуская мова пры ім, як квітнеючая яблыня і карэнні яе.

Барадатыя знаўцы таленавітасці Мікалая, у іх ліку не адны палякі, але і швейцары, і англічане, і нарвежцы — заядла дыскутавалі ды гергаталі пра выстаўку, называючы яе вялікім крокам наперад у маладым развіцці ўснарскага хлопца. З задаволенасцю перадаю я гэта да ведама зацікаўленых чытачоў „Нівы“. Калі павінен і я сказаць нешта ад самога сябе, дык асабліва прыйшліся мне даспадобы тыя яго карціны, рэпрадукцыі якіх і змяшчаю побач артыкула. На фатаграфіі яны, на жаль, бясколерныя, чорна-белыя, таму і ўражанне ў чытача будзе далёкім ад кантакту з арыгіналамі.

Выстаўкі Давідзюка адбываліся і ў беластоцкім „Арсенале“, і думаю, што не ў апошні раз... Сустрэнемся тут, пабачымся, пагаворым. Пэўна, у першага сустрэчнага гэтыя „малюнкі“ не выклічуць захаплення, бо ўсе мы выхаваныя на краявідах, а не на жывапісе, у якім філасофія і амаль нічога па-за філасофіяй. Карціны, якія прымушаюць думаць і разумець свет з чалавекам. Прымушаюць бачыць жыццё глыбей. Гэта карціны думкі і роздуму, а не пейзажаў.

Пакідаў я Лодзь з невясёлай думкай аб тым, ці Мікалай Давідзюк вырас бы на такога мастака, гадуючыся ў нашым старонні.

**Аляксандр Анташэвіч**



**Прафіляваны. 1985 г.**

манкавай зайздрасцю спазіраў на сваяка-шчаслівчыка і рабіў, што адно змог, каб як мага болей пакарыстацца спрыяльнай нагодай.

Не драмалі таксама крыжакі, якія ўсімі сіламі намагаліся разладзіць небяспечнае для іх яднанне Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага. Асабліва ж варожа адносіліся яны да справы... хрышчэння рэштак язычнікаў у Вялікім княстве. Усім жа было зразумелым, што калі ўсе стануць хрысціянамі, тады існаванне Ордэна крыжакоў бессэнсоўнае і непатрэбнае. Таму і вандраваў Ягайла па краіне, каб развеяць варожасць да яго палітыкі і асобы, што згушчалася ў Вялікім княстве Літоўскім. А справа не была лёгкай.

Па краіне хадзілі адна другой жахлівей розныя пагалоскі, што Ягайла збіраецца не толькі хрысціць язычнікаў, але і перахрышчваць у каталіцтва праваслаўных. Не толькі крыжацкія агенты, але і непрыхільныя каралю яго ж сваякі рассявалі розныя небыліцы ды страхоцце, каб скаламуціць і падбухторыць супраць яго краіну ды ўладкаваць, вядома, свае прыватныя інтарэсы. Спачатку гэтым слухам адны верылі, другія пускалі міма вушэй. Аднак, калі ў Ягайлавай світе звочылі значную грамаду каталіцкага духавенства, тады насцярожыліся і язычнікі і праваслаўныя. Неўзабаве на граніцах паявіліся натоўпы ўцекачоў: язычнікі беглі да... крыжакоў, а праваслаўныя — у падлеглыя татарам Маскоўскае і Разанскае княствы, або проста ў стэпы, у татарскую арду.

„Добра, — заўважыць чытач, — жмудзіны, летувісы, яцвягі і іншыя язычнікі ратаваліся ад

(Працяг на стар. 8)



**Знатны баярын-военачальнік Вялікага княства Літоўскага з XIV стагоддзя.**




## ДРАЖДЖОВЫЯ ПІРАЖКІ

На 10 піражкоў трэба ўзяць (на цеста): 1,5 шклянкі мукі, 1 сталовую лыжку цукру, 2 чайныя лыжкі масла ці маргарыну, 10 г дражджэй, 1 яйка, 3/4 шклянкі малака або вады, алей, соль.

На фарш з бульбы: 3 бульбіны, 1 сталовую лыжку масла, палавіну цыбуліны, 1 яйка, 1 чайную лыжачку тлушчу, соль.

На фарш з грыбоў: 100 г сушаных грыбоў, палавіну цыбуліны, 1/4 шклянкі белага соусу, 1 чайную лыжачку тлушчу, перац, соль.

На фарш з цыбулі: 4 цыбуліны, 2 яйкі, 1 сталовую лыжку масла, соль.

Фарш з морквы і рысу: 1,5 морквы, паўшклянкі рысу, 1 сталовую лыжку цукру, 1 яйка, 1 сталовую лыжку масла, соль.

Дрожджы развесці ў цёплай вадзе або малацэ. Дадаць масла ці маргарын, яйка, цукар, соль і ўсю муку. Добра перамяшаць і дазволіць, каб цеста падвоіла свой аб'ём. Гатовае цеста парэзаць на кавалкі, па 40-50 г, зрабіць з іх шарыкі і пачакаць, пакуль крыху падрастуць. Пасля гэтага шарыкі раскатаць на таўшчыню 0,5-1 см, на кожны палажыць фарш, заляпіць і так пакінуць, каб ізноў падраслі, а тады ўжо смажыць у вялікай колькасці алею.

Фарш з бульбы падрыхтоўваем наступным чынам: вараную бульбу расцерці, дадаць падсмажаную цыбулю, пасечаныя крутыя яйкі і масла і ўсё добра перамяшаць.

Падрыхтоўка фаршу з капусты: дробна пасечаную капусту абліць кіпетнем, адкінуць на сіта, паліць халоднай вадой, выціснуць і падсмажыць, памешваючы, мінут 10-15. Тады дадаць крутое пасечанае яйка і соль.

Фарш з грыбоў падрыхтоўваем так: сушаныя грыбы, памытыя ў цёплай вадзе, намачыць у халоднай вадзе на 2-3 гадзіны, а пасля зварыць у гэтай жа вадзе (не дадаючы солі), працадзіць, яшчэ раз памыць грыбы і прапусціць іх праз мясарубку, пасля чаго падсмажыць, дадаць падсмажаную цыбулю, соль, перац і белы соус. Соус гэты падрыхтоўваем, падсмажыўшы крыху муку, развёўшы яе мясным адварам і варачы мінут 10 на невялікім агні; а калі соус крыху астыне, дадаць яшчэ да яго жаўток, масла, соль і крыху лімоннай кіслаты.

Падрыхтоўка фаршу з цыбулі: цыбулю падсмажыць, перамяшаць са зваранымі, дробна пасечанымі яйкамі і пасаліць.

Падрыхтоўка фаршу з морквы і рысу: ачышчаную моркву прапусціць праз мясарубку і стушыць яе, а рыс зварыць і дадаць да морквы, дадаць таксама соль, цукар і крутое пасечанае яйка.

**Гаспадыня**

ФАЛЬКЛОР




# НЕ ТРЭБА БРЫЧКІ ЗАЛАТОЕ...

**(любоўная)**

Ой ты, месяц, месячына,
чаго так раненько зышоў?
Ты асвяціў тую даліну,
а сам за хмарачку зайшоў.
Ты асвяціў тую даліну,
а сам за хмарачку зайшоў.
А ў той даліне стаіць хаціна,
а над хацінай гай шуміць.
Там маці дочку разважае,
дачка заплакана сідзіць.
Там маці дочку разважае,
дачка заплакана сідзіць.
— Не плач ты, доню мая міла,
нешчасна доленька твая.
Усе хлопцы вернуліся,
а твайго мілага німа.
Усе хлопцы вернуліся,
а твайго мілага німа.
Дару я брычку залатую,
дару я пару вараных.
Дару я мілаго другого
і будзе пара маладых.
Дару я мілаго другого
і будзе пара маладых.
— Не трэба брычкі залатое,
не трэба пару вараных.
Не трэба мілаго другого —
я буду першага любіць.
Не трэба мілаго другого —
я буду першага любіць.

Ад Валянціны (1941 года нараджэння) і Сямёна (1940 года нараджэння) Лукшаў, спевакоў з калектыву „Сямяне", в. Баб'я Гара гм. Нараўка, запісаў 14 верасня 1987 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфравала Я. Бондар.

**(Працяг са стар. 7)**

## ПЕРАМЕНЫ

хрышчэння пад двудушнае заступніцтва крыжакоў, якія намагаліся захаваць іх, каб магчы самім існаваць. Але чаму ўцякалі праваслаўныя?"

Што ж, ранейшае зацяжное змаганне паміж вялікімі князямі маскоўскім Дзмітрыем і літоўскім Альгердам, з якіх кожны імкнуўся на пасадзе мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі мець свайго чалавека, не спынялася і пасля Альгердавай смерці. У выніку пад рознымі націскамі патрыярх канстанцінопальскі на гэты пасад пасвяціў аж тры асобы, з іх адна трагічна загінула ў барацьбе. Гэтыя цяжкія звадкі моцна score закранулі праваслаўнае духавенства, асабліва вышэйшае, і яно, занятае унутранымі канфліктамі, не магло згуртавацца і згуртаваць вакол сябе веруючых у абарону правоў праваслаўя ў Вялікім княстве, паўздзейнічаць на Ягайлу і яго палітыку ў справах рэлігіі.

Каралеўскімі дарадчыкамі стала прыехаўшае з ім з Польшчы каталіцкае духавенства. Узначальваў яго гнезненскі епіскап Андрэй, які папярэдне бываў у Вялікім княстве і меў дакладныя звесткі пра рэлігійныя справы ў ім, у тым ліку і пра крызіс у праваслаўнай царкве. І ён выдатна выкарыстаў нагоду для пашырэння і ўмацавання каталіцызму ў Вялікім княстве. Несумненна, дзякуючы яго стараннямі Ягайла даў дазвол на заснаванне ў Вільні каталіцкага епіскапства ды надзвычай шчодра абдараваў яго аграмаднымі зямельнымі маёнткамі і рабочым людам, раздаваў у розных мясцовасцях Вялікага княства засноўваць касцёлы і таксама не скупіўся, надзяляючы іх зямлёю, сялянамі. Затым у лютым 1387 г. адбылося ў вялікакняскім палацы ў Вільні ўрачыстае хрышчэнне ў каталіцтва вялікай грамады прыхільных каралеўскай палітыцы князёў, баяраў, рыцарства, якія дагэтуль былі язычнікамі або вызнавалі праваслаўе, і аб'яўленне Ягайлам каталіцкага веравызнання найважнейшай рэлігіяй Вялікага княства Літоўскага. Гэта быў першы і самы балючы ўдар па славутай рэлігійнай талерантнасці ў ім.

Ранейшыя ды нярэдка і цяперашнія гісторыкі любяць маляваць такія вось абразкі з увядзення каталіцызму ў Вялікім княстве.

„І зараз у Вільні пагасла дагэтуль бесперапынна палаючае святое вогнішча, разбурылі язычаскі храм і ахвярны алтар, забівалі шанаваных дагэтуль вужоў, вырубалі святыя гаі, — распавядае сучасны польскі гісторык М. Косман ды дадае: — Было крыху ляманту, але ўголас баяліся выказваць сваё незадавальненне. Кароль — як паведамляе Длугаш — сам раздаваў простаму народу вопратку з сукна, якое прывёз з Польшчы. „Гэтая разважлівая каралеўская шчодрасць і ласкавасць учыніла тое, што калі пра яе разышліся весткі, цёмны народ, а прытым заахвочаны самой магчымасцю атрымаць адзежу, тлумна адусюль збягаўся, каб прыняць святое хрышчэнне". Таму што ахвотных было шмат, натоўп дзялілі на грамады і кожнай агульна давалі тое самае імя, напрыклад: Пётр, Павел, Ян, Якуб, Станіслаў, а жанчынам — Катарына, Дарота ці Малгажата. Толькі вяльможаў, якія з'язджаліся ў Вільню разам з сем'ямі, хрысцілі ўпаасобку".

Калі было так міла ды хораша, дык адкуль браліся тыя натоўпы ўцекачоў і супраціўленне, якое нарастала з кожным днём ва ўсёй краіне?

Мікола Гайдук

Мал. У. Петрук

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка, я вельмі ўстрывожана. Але можа па парадку. Я вучуся ў Беластоку на трэцім курсе вышэйшай школы, няважна якой. Паколькі з хаты даязджаць было б мне вельмі цяжка, бацькі вырашылі наняць мне кватэру ў горадзе. Яшчэ на першым курсе адзін хлапец з маёй групы запрапанаваў мне, каб мы нанялі пакой разам, то будзе танней. Знайшлі мы кватэру ў нейкай віле і фактычна жывецца нам някепска. Мой сябра вельмі чалавечны. Мы разам з ім вось ужо трэці год ездзім на заняткі, бо і жывем далекавата ад цэнтра горада, разам ходзім на нейкія канцэрты, разам запрашаем часамі дзяўчат і нераз удаецца нам вельмі прыемна правесці час. Мы вельмі падружыліся і зжыліся адзін з другім. І нават ніколі не пасварыліся з-за нейкай дзяўчыны. Ён мне ў гэтых справах заўсёды ўступае.

Але вось у апошні час здараюцца такія моманты, якія мяне пачынаюць вельмі нерваваць і я нават стаў падумваць аб тым, каб змяніць сабе кватэру. Мой сябра, асабліва калі падап'е, замест прывесці сабе дзяўчыну дахаты, любіць ускочыць да мяне ў пасцель. І тады пачынае нешта расказваць, пачынае прытуляцца да мяне, а што я яму, дзяўчына? Праўда, не пасоўваецца ён да нейкіх далейшых фокусаў, але мне і гэты факт ужо агідны. А ён, бедны, аж гарыць. З вялікай цяжкасцю ўдаецца мне выкінуць яго са свайго ложка. І вось таму я стаў падумваць аб тым, каб знайсці сабе іншы пакой, дзе б змог я жыць адзін і ў любы момант запрасіць каго хачу. Але што рабіць, калі я гэтага сябру свайго фактычна вельмі люблю. Ён такі добры хлопец... Калі хто яго дзесь пачастуе, то ён, хоць крышачку, але прынясе мне пакаштаваць і проста сам не ведаю, што рабіць. Мо неяк яму растлумачыць, або паставіць ультыматум? Бо так інакш быць не можа і адчуваю, што мой сябра стане маім ворагам.

**Пеця**

Пеця! На наш погляд, твой сябра ў цябе закахаўся! Ой бедны ён, бедны. Не досыць, што ты яго не хочаш, дык яшчэ ж і AIDS на свеце шалее ды ўжо да нас заглядае, хаця ў Беластоку пакуль што гэта хвароба не сцверджана. А сам жа ведаеш, каго яна ў першую чаргу атакуе...

Кожнаму нармальнаму чалавеку гэтакія гісторыі здаюцца агіднымі і непрыемлівымі. Але ж твой сябра, відаць, змагаецца з пачуццём да цябе, мо яму хочацца проста прытуліцца, быць побач з табой, ты ж стаў яму блізкім чалавекам. І не відаць, каб быў занадта нахальны. Так што, думаю, у такой сітуацыі можна яшчэ прабаваць нейкі метад персвазіі. Калі ён нічога не зразумее, тады можна паставіць ультыматум: або мы з табой сябры як сябры, або: бывай здароў! І тады пачаць шукаць кватэру. А так наогул, калі ўжо гаварыць пра гомасексуалістаў, дык напэўна больш шкоды прыносяць яны самім сабе, чым асяроддзю. Ну, бо фактычна, табе ён нічога страшнага не зрабіў, а вось сам не разумее яшчэ нават, што чакае яго ў будучыні. А ў будучыні чакае яго, калі не хвароба, дык напэўна адзіноцтва. Такіх людзей не заўсёды добразычліва прымаюць нават у кампаніі. Твой сябра мае задаткі на бісексуаліста — ён, відаць і дзяўчыну можа мець і хлопцы яму падабаюцца.

**Сэрцайка**

# СОННІК

—99—

**Сад** — багацце, заможнасць; быць у ім — удачы ў жыцці; цвітучы — шчасце; зніштожаны — няўдачы; сад з пладамі — здзяйсненне зычанняў; садавіна на дрэве — добрая прыкмета; сарваная — шчаслівы судовы працэс; кіслая — няшчасце; салодкая — багацце; многа — шчаслівыя планы, намеры.

**Садзіцца** ў што-небудзь — небяспека.

**Сажалка** — будзь асцярожны(ая); непрыемнасці.

**Салавей** — прызнанне ў каханні; спяваючы — радасць.

**Саламянка** (для выцірання ног ля парога) — абыякавасць, зняважлівасць.

**Салапіна** — смерць прыяцеля; есці яе — задавальненне; крышыць — жалоба; скварыць — прадбачлівасць;

**Салата** — лёгкае захворанне; непатрэбная работа; есці — абяцаючая будучыня; рваць — нахабства, дзёрзкасць.

**Салдат** — цяжкая работа; быць ім — неспакой, трывога.

**Салома** — пустая балбатня; хрысціны; у снапах — вызыск; гарыць — непатрэбныя засмучанні і турботы; саламяная страха — цяжкія часы; капялюш — шчасце.

**Самавар** — прыемны візіт.

**Самагубства** — няшчасце па ўласнай віне.

**Самалёт** — вялікія планы; ляцець ім — даб'ешся свайго.

**Санаторый** — падарожжа на адпачынак.

**Сандалі** — быць вундэркіндам (цудоўным дзіцём).

**Сані** — прыемнасць, якая не дае задавальнення; ехаць імі ў завіруху — прыкрая неспадзяванка.

**Санная** дарога — зманлівыя спадзяванні.

**Сапернік**, канкурэнт — нешчаслівае пачынанне, мерапрыемства.

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Латышская казка

## ПЯЦЬ БРАТОЎ-ЦУДАДЗЕЯЎ

Заканчэнне з папярэдняга нумара

Дайшлі яны да каралеўскага замка. І пачулі пра тое, што тамашні кароль абяцаў аддаць сваю дачку замуж за таго, хто здолее перагнаць прынцэсу, а бегаць яна, кажуць, умела. Пачуў гэта Скараход, кажа:

— Гэта работа па мне! — і падрадзіўся бегчы наперагонкі з каралеўскай дачкой.

Даў кароль абаім — і Скараходу і прынцэсе — па карцу і наказаў ім прынесці вады з крыніцы, якая цячэ ў тым краі, дзе сонца ўзыходзіць. Калі прыбяжыць Скараход раней за прынцэсу, прынясе ваду, — заўтра ж згуляюць вяселле.

Добра. Пабегла каралеўская дачка, стараецца, ляціць на ўсю сілу. А Скараход зрабіў два крокі і — апынуўся каля запаветнай крыніцы; зачэрпнуў ён вады ў карэц, сам напіўся, бачыць — часу засталося шмат, спяшацца няма куды, ён і прылёг адпачыць. Размарыла яго на сонейку. Апусціў ён паясок, сунуў шапку пад галаву ды і заснуў. Прыбегла прынцэса да крынічкі, зачэрпнула вады ў свой карэц. Скараходаў карэц ножкай перакуліла, як найдалей яго адкінула, думае: „Дзе табе, мужык, з каралеўскай дачкой змагацца!“ — І з усіх ног назад...

Сядзіць кароль, чакае бегуноў. Сядзяць чатыры браты, чакаюць свайго Скарахода. Дзень ужо да вечара хіліцца, а яго ўсё няма. Пачаў тут зоркі Стралок прыглядацца, бачыць: ляжыць каля крыніцы ва ўсходнім краі Скараход, спіць — ад яго храпу дрэвы да зямлі хіляцца, бачыць: імчыць каралеўская дачка, толькі пыл за ёй па дарозе віецца. Дрэнь справа! Прыцэліўся Стралок, стрэліў — з-пад галавы ў Скарахода шапку выбіў. Прачнуўся тут Скараход, спахапіўся, карэц знайшоў, зноў вады зачэрпнуў і памчаўся. Раз, два — перагнаў прынцэсу, як яна ні старалася, і вось ужо стаіць перад каралём: „Калі ласка, ваша вялікасць!“.

Выходзіць, трэба каралеўскую дачку за мужыка Скарахода аддаваць: слова дадзена! Ніхто караля за язык не цягнуў, сам набіўся... Ну, ды ў каралёў слова і справа не адно і тое ж. Глядзіць на Скарахода каралеўская дачка, нос убок верне, што ён, што яго браты — мужыкі: шапкі ў іх з аўчыны, вопратка даматканая, на руках мазалі, пасталы з каровінай скуры пашыты, акрамя заціркі ды печанай бульбы, яны, напэўна, у жыцці нічога не каштавалі!.. І каралю будучы зяць не па душы — ён разлічваў на заморскага прынца! Вось і кажа кароль важна:

— Навошта мужыку каралеўская дачка, ён з ёю і двух слоў сказаць не зможа — няхай лепш возьме сабе дабра, колькі здолее, ды і ідзе прэч, пакуль жыў-здароў!

(Працяг на стар. 10)

Родная прырода

## БЯРОЗА — БЕЛАРУСКАЕ ДРЭВА

Бяроза расце ў самых разнастайных асяроддзях. Сустракаецца на сухіх пясках, гліне і на балоце.

Лес бярозавы — бярозавы гай — вельмі прыгожы і прыемны. У ім багата сонца. Душа радуецца. А як хочацца пашукаць там грыбоў! Якая радасць знайсці чырвонагалоўца! Пасля сесці пад бярозкай і пагрэцца на сонцы... Прырода — наша гняздо!

Беларусы вельмі любяць бярозу. Яны склалі аб ёй многа песень. „Ой, бярозы ды сосны, мае родныя сёстры“ — ужо больш сардэчна нельга сказаць.

У старых бярозах птушкі робяць дуплы. Там выводзяць птушанятак. Гэта іх дом.

Дзеці! Не знішчайце старых дрэў!

Барыслаў Рудкоўскін
Мал. аўтара



Бяроза на полі Афанасія Себясевіча в. Відава каля Бельска.

## З ДАЛЁКАГА І БЛІЗКАГА



Вучпа сёмага класа з выхавацелем Юрыем Койлам. Год (прыблізна) 1975.

Юрый Койла быў кіраўніком школы ў Бубічах Царкоўных. На здымку з ім вучні, якія расплыліся потым па розных прафесіях: добрая гаспадыня, медсястра, кухарка, настаўніца, дырэктар... Паглядзіце і прыпомніце сваю школьную маладосць, дарагія.

Здымак і інфармацыю прыслала Мар'я Пень з Тафілаўцаў, гміна Дубічы Царк.



Прайшло лета і мы ўжо старэйшыя і разумнейшыя, — гавораць нам гэтыя мілыя, радасныя дзеткі з прадшкольнага аддзялення ў Старым Корніне.

Фота У. Завадскага.

## Вучнёўская творчасць

### НАСТАЎНІЦА

Нашая настаўніца
Добрая і мілая.
Нашая настаўніца
Нам другая мама.

Нашая настаўніца
Нас навучае.
Нашая настаўніца
Нам дапамагае.

З нашаю настаўніцай
Цяжкія пытанні
Стаюць лёгкімі,
Як думкі нашай пані.

Ала Гайдук
школа ў Ласінцы

### АДЫХОД ЛЕТА

Лета адыходзіць,
кветкі забірае,
сумную песню
ціхенька спявае.

За летам ідзе восень,
нясе яблыкі, слівы

(Працяг на стар. 10)

### ЛЯСНЫ БУДЗІЛЬНІК

Сонца ссунулася з неба
І ляжыць, як бохан хлеба,
На пагорку,
За ракою,
Блізенька — падаць рукою...

Дзень слабее,
Дзень згасае,
Спаць ідзе сям'я лясная.

Ад работы, ад пацех —
Адпачыць усім не грэх.

Васіль Зуёнак

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




Інструмент пастухоў. Рабіўся з дрэва, бярозы. Даўжыня ад метра да трох. Яго моцны гук можна было пачуць за некалькі кіламетраў.

(Працяг са стар. 9)

## ПЯЦЬ БРАТОЎ-ЦУДАДЗЕЯЎ

. Добра, Скараход на гэта згодзен.

Скупілі браты ўсё палатно ў горадзе, і пачаў Асілак шыць мех для абяцанага каралеўскага дабра — тры дні шыў. Вялікі мех атрымаўся. Як убачыў кароль гэты мех, у яго і вочы на лоб палезлі — ці хопіць яго дабра на гэты мех?

І вырашыў кароль хітрасцю пазбавіцца ад пяцярых братоў.

Вось і кажа ён братам-цудадзеям, каб на дарогу яны ў лазні памыліся-папарыліся. А лазня ў яго была жалезная — з яе яшчэ ніводзін чалавек жывым не выходзіў.

Пайшоў у лазню першым Свістун, а за ім і астатнія браты. Надзеў Свістун сваю шапку на абодва вухі — пачала лазня астываць, туляцца браты адзін да аднаго — як бы не замерзнуць! Падкідаюць каралеўскія слугі дроў, не шкадуюць. Радуецца кароль, што не дастанецца цяпер яго дабро мужыкам... Палілі-палілі лазню, нарэшце адчынілі. Выбеглі адтуль браты кінуліся да сваёй даматканай вопраткі.

— Ну і сцюжа! — кажуць.

Кароль і слова вымавіць не можа — вось дык браты, ім і рады няма!

А браты давай абяцанае дабро ў мех складаць. Напаследак кінуў туды Асілак сем каралеўскіх карэт з конямі і фурманамі ды сем торбачак з аўсом, каб было чым коней карміць, ды сем вёдраў з дзёгцем, каб было чым карэты падмазваць, ускінуў мяшок на плечы, і пайшлі браты прэч.

Вось ужо тут узлаваўся кароль! Насунуў карону тужэй на галаву, сабраў усё сваё войска і загадаў яму за братамі ісці, мех з дабром адабраць ды братоў забіць — што яму чужое жыццё!.. Кінулася каралеўскае войска на ўздагон за братамі — з пікамі, шаблямі ды гарматамі.

Бачаць браты пагоню, што рабіць?

— Нічога! — кажа тут Узвейвецер. Павярнуўся ён да каралеўскага войска, адкрыў другую ноздру — і ўзняўся такі вецер, што ўсё каралеўскае войска, і пешае і коннае, разляцелася немаведама куды: каралеўскія ж салдаты на зямлі нямоцна стаяць! Толькі адзін-адзіны салдат зачапіўся за корань елкі ды так і завяз. Ён і цяпер там, у Крывым лесе, — па ўзгорку ўніз, каля рэчкі, цераз пяты роў, дзевяты пяньчук налева... Схадзі паглядзі, калі не верыш!

Заданне: *Ілюструйце казку. Малюнкі прысылайце „Зорцы“.*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 163059, г. Архангельск, ул. Химиков, 3, кв. 8. Макаровой Наде, 6 клас.

* * *

СССР, 163061, г. Архангельск, пр. Новгородский, д. 164, кв. 197, Попов Дима. 7 клас.

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский р-н, Рылёво, Агафоновой Наташе, 3 клас.

## ШКОЛЬНЫ ФУТБОЛ

Школьная футбольная каманда з Пачатковай школы ў Міхалове. Яна заняла І месца ў розыгрышах з камандамі школ з Гарадка і Нараўкі.

**фота В. Кандрацюка**

## Пішуць школьнікі

### НАШАЕ ВЫСТУПЛЕННЕ

У нашай школе настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк вядзе беларускі гурток. Мы з ёю рыхтаваліся нядаўна да выезду ў Тыневічы. Сёмага кастрычніка мы выехалі на веласіпедах з нашай школы. Калі мы даехалі да школы ў Тыневічах, там прывіталі нас вучні і настаўнікі.

Мы паказалі ім нашу п'есу „Першыя крокі самастойнасці“. Спявалі песні, дэкламавалі вершы, выразна чыталі тэксты. За нашае выступленне мы атрымалі кветкі, а потым вучні і настаўнікі запрасілі нас на супольны пачастунак — гарачы чай і ласункі.

Ад'ехалі мы вельмі задаволеныя. Весела ўспамінаем гэтую паездку ў Тыневічы.

**Яніна Кандрацюк, Крыстына Плева.**
Школа ў Ласінцы.

### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА“!

Я хачу табе расказаць пра дзень Войска Польскага, які адбыўся ў нашай школе 12 кастрычніка. Акадэмія распачалася дзяржаўным гімнам. Пасля Марэк Бароўскі прачытаў рэферат, а Аня Станько паведаміла ўсіх аб далейшай праграме акадэміі.

У мастацкай частцы выступілі вучні нашай школы. Яны дэкламавалі вершы і спявалі прыгожыя песні. А на канец вучні III і IV класаў паказалі п'есу „Нашае войска“, якую рыхтавалі з настаўніцай Нінай Абрамюк. Усе вучні правялі час добра і весела. Мы радуемся, што ў нашай дарагой школе можна так выступаць перад усімі.

**Ала Гайдук**
вуч. IV класа школы ў Ласінцы.

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Мяне завуць Таня. Мне адзінаццаць год. Жыву я ў горадзе Яраслаўлі. Нашаму гораду 975 год. Ён стаіць на вялікай рускай рацэ Волзе.

Я вучуся ў школе № 20 у 5 класе. Хачу перапісвацца і дружыць з дзяўчынкай. Мне хочацца больш даведацца аб вашай краіне. Я — член школьнага Клуба інтэрнацыянальнай дружбы. Прашу вас, дайце мой адрас ахвотным перапісвацца.

Чакаю пісьма ад дзяўчынкі, якая ведае рускую мову.

Мой адрас: СССР, 150031 Ярославль, ул. Автозаводская, д. 99, кв. 28. Самовой Тане.

(Працяг са стар. 9)

## Вучнёўская творчасць

**і смачныя грушы,**
**аж трасуцца вушы.**

**Моладзь пайшла ў школу,**
**настаўнікаў вітае**
**і песню з канікулаў**
**вясёлую спявае.**

**А ў нашым класе**
**кожны ёсць вясёлы,**
**бо настала восень —**
**мы прыйшлі ў школу.**

**Сустрэліся з сябрамі,**
**усё апавядалі, —**
**вельмі задаволены**
**морам і гарамі.**

**А хто быў у дома,**
**памагаў бацькам —**
**ездзіў з татам на возе**
**і на сене спаў.**

**Яніна Кандрацюк**
школа ў Ласінцы

Ліст са школы ў Залуках.

„Дарагая рэдакцыя! Мы, вучні Пачатковай школы ў Залуках, дзякуем Вам за прыгожую казку „Залатая яблынька“. Просім: друкуйце часцей такія казкі. Вучні III і IV класаў“.

Сардэчнае дзякуй за ліст і ілюстрацыі. А прыслалі „Зорцы“ свае ілюстрацыі да казкі наступныя вучні з Залук: Кася Рогач, Аня Грыгарук і Рафал Грушэўскі.

Мал. Касі Рогач, Залукі.

## АДГАДАНКА

Разгадайце рэбусы. У іх загалоўкі двух вядомых вершаў Янкі Купалы.

## КОТ НА ЛАЎРАХ

У хаце ад мышэй вялікі неспакой,
І каб пазбавіцца ад прыкрасці такой,
Цімох набыў Ката.
Каток удаўся — любата:
Вясёлы, жвавы, дападкі,
За ноч, калі святло пагасне,
Абыдзе ўсе куткі.
Як толькі мыш дзе шасне,
Ён — тут як тут,
І мышцы той ужо капут
У вострых кіпцюрах.
Так на мышэй нагнаў ён страх,
Што ў хаце стала ціхата...
І адпачынак для Ката.
Ад Цімаха Кату пашана,
Ад гаспадыні — ласка:
На снеданне яму смятана,
Кусочак добры мяска.
Кот на выгодзе раздурэў,
Ён растаўсцеў і раздабрэў
І стаў не Кот — Кацішча.
Яму ўжо цяжка ўзлезці на гарышча.
Пакуль Цімох Катом сваім хваліўся,
Зноў мышы ў хаце завяліся,
Але іх піску Кот нібы не чуе.
На печы ён і днюе і начуе.
Сядзіць, наставіўшы вусішчы
І вылупіўшы ліхтары, —
Хоць ты партрэт з яго твары.
Не меўшы сораму ні крышку,
Патрабаваў, каб штодзень мышку
Яму давалі на абед.
Каб з'еўшы, ён з прыемнасцю ўявіў,
Што сам яе злавіў.
Бязглуздзіца, якой не бачыў свет,
Але давалі, здабывалі,
Каб гонар і прэстыж Ката
падняць вышэй,
Сам Гаспадар лавіў яму мышэй
На кухні і ў падвале.

**Кандрат Крапіва**



Без слоў.

# НАЎКА



### КЕМЛІВЫ

Шэф-кухар да практыканта:

— Чаго не хапае ў гэтай катлеце?

— Мяса, — хутка адказвае практыкант.

— Што трэба зрабіць?

— Падсыпаць перцу.

### ЧУЙНЫ

Хлапчук падбег да міліцыянера:

— Хадзіце хутчэй са мною!

— А што здарылася?

— Наш настаўнік паставіў машыну ў забароненым месцы.

### НУ І НУ!

— Ало! Да якой пары ў мяне будзе працякаць столь?! Яшчэ паўгода назад я пакінуў у вас заяву аб рамонце даху.

— Пазваніце, калі ласка, па тэлефону 921.

— Гэта ваш шэф?

— Не. Гэта бюро пагоды.

### ГЛУПСТВА

Пасля вяселля малады прызнаецца маладой:

— Дарагая, я яшчэ не ўсё табе расказаў аб сабе... Я плачу аліменты на двух дзяцей.

— Нічога страшнага, дарагі, я ж атрымліваю аліменты на двух дзяцей.

### НЕ ПАСПЕЎ

— Маланння, што гэта ў вас дома ўначы за гоман быў?

— Ды Кастусь п'яны прыйшоў.

— А з балкона што ўпала?

— Кастусёва паліто.

— А чаму яно так груквула?

— Ды ён не паспеў распрануцца.

### УДАКЛАДНІЎ

— Сцяпан!

— Га!

— Твая карова курыць?

— Хто гэта чуў, каб карова курыла? Ты што — здурэў?

— Ды нібы не, але з твайго хлява во дым валіць.



**Настолькі любіў сябе, што не жаніўся.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Значыць, мэблю і ўсе хатнія рэчы мы падзелім пароўну без усіх скандалаў. Ты згодна?

— Вядома.

— І давай дамовімся, што мы захаваем нармальныя людскія адносіны. Калі сустрэнемся, спакойна прывітаемся...

— Абавязкова.

— І ў часе самога разводу мы будзем весці сябе карэктна, без розных выхадак і закідаў. Згодна?

— Згодна.

— Ну і цудоўна. Тады паспяшым — праз дзесяць мінут наша вяселле...

*

— Вы хочаце працаваць у нашым цырку? У якасці каго?

— Я буду выступаць у якасці чалавека-гіганта.

— Але дазвольце, у вас жа рост ад сілы паўтара метра.

— Вось і добра, гер дырэктар, я буду самым маленькім гігантам у свеце.

### МІНІВЕРШЫ

**ЯК ЗАВЯЗАЦЬ**

**— Гарэлкі больш у рот не браць!**
**Ты завяжы, — мне раіць Клава.**
**— А як бутэльку завязаць?**
**Адкаркаваць — другая справа...**

**А. Перагуб**

### З „Весніка Задрыповіі"

### АДХОДЫ ВЫКАРЫСТАЦЬ!

Безадходную тэхналогію ўкаранілі на Ачуцінаўскім заводзе металавырабаў, які спецыялізуецца па выпуску накрывак для кансервавання. Усё, што застаецца ад вырабу асноўнай прадукцыі, поўнасцю скарыстоўваецца пры вырабе цыстэрнаў і індывідуальных гаражоў.

### АБ'ЯВА

Адзінокая жанчына нойме кватэру на 2-3 гады. Звяртацца па тэлефону: 43-03-06, спытаць Антона Гаўрылкевіча.

### ВАРУХНІ ГАЛАВОЮ



**Якія вузлы завяжуцца, калі пацягнуць за канцы вяровачкі?**





**Прыручыў.**



Без слоў.

# Курёзы

### ТСС!.. КОКА-КОЛА!..

Амаль сто год хімікі канкуруючых фірм змагаюцца над аналізам саставу гэтага папулярнага ў свеце напітку. На сённяшні дзень установлена, што напітак амаль на сто працэнтаў складаецца з газіраванай вады, паленага цукру, фосфарнай кіслаты, кафеіну, экстракту з апаўшага лісця кока і арэхаў кола. „Амаль" — гэта значыць за выключэннем таямнічага саставу, які носіць назву „Мерхандзіз 7-ікс". Фірма, якая выпускае напітак, нікому не адкрывае яго сакрэту і нават адмаўляецца паведаміць, хто з асабліва давераных асоб ведае хімічную формулу „7-ікс". Існуе легенда, што гэта формула вядома толькі дзесяці персонам у свеце. Калі гэтыя паны раптам забудуць складаемыя, ім трэба сабрацца разам — кампаніяй не менш сямі чалавек — і пайсці ў камерцыйны банк „Траст компані оф Джорджыя", дзе ў падвале ў далёкім сейфе пад сямю замкамі і за сямю пячацямі ляжыць канверт з запіскай, якая змяшчае поўную формулу „мерхандзіза".

Каб адчыніць сейф, трэба сабраць савет дырэктараў банку, які на сваім пасяджэнні вырашыць, ці маюць гэтыя прадстаўнікі фірмы „Кока-кола" ўсе паўнамоцтвы, каб пазнаёміцца з запіскай. Толькі пасля гэтага сейф можа быць адчынены, прычым у строга акрэслены час: ні мінутай раней, ні секундай пазней! Відаць, у сейф умантаваны гадзіннікавы механізм, але ці так гэта — ніхто не ведае. Некаторыя лічаць, што хутчэй за ўсё ў банкаўскім сейфе ляжыць пусты канверт і ніякага саставу „7-ікс" у прыродзе не існуе, а легенда аб запісцы і гульня ў звышсакрэтнасць патрэбны фірме для рэкламы.




**Проста немагчыма хлусіць, калі не ведаеш усёй праўды.**